**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№28(692) 11 ліпеня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае






**У Лужках ушанавалі памяць знакамітага земляка Лазара Перэльмана, які вядомы ў свеце як Эліязэр Бен-Іегуда. Яго бюст знаходзіцца на Алеі Славы ў Глыбокім. З яго імем звязваюць адраджэнне іўрыту, які зараз з'яўляецца дзяржаўнай мовай Ізраілю. Мерапрыемства адбылося 6 ліпеня.**

**На здымку:** прамаўляе Ада Эльеўна Райчонак, арганізатар мерапрыемства, кіраўнік культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча ў Германавічах. Фота Зміцера Лупача. *Працяг тэмы на стар.4,5*.



## Чаканая працягласць жыцця ў Беларусі дасягнула максімуму за апошнія 20 гадоў

**У Беларусі ў 2012 годзе чаканая працягласць жыцця павялічылася ў параўнанні з 2011 годам на 1,6 года і склала 72,2 года. Гэта самы высокі ўзровень больш як за 20 гадоў, паведамілі БЕЛТА ў Нацыянальным статыстычным камітэце.**

Апошні раз паказчык чаканай працягласці жыцця перавышаў 72 гады ў 1985 годзе.

Чаканая працягласць жыцця пры нараджэнні ў Беларусі супадае з сярэднесусветным значэннем, але значна ўступае сярэднееўрапейскім паказчыкам.

У Беларусі назіраецца высокая розніца ў працягласці жыцця паміж мужчынамі і жанчынамі, у 2012 годзе яна склала 11 гадоў. Чаканая працягласць жыцця ў беларускіх мужчын - 66,6, у беларускіх жанчын - 77,6 года. Для параўнання: гэтыя паказчыкі ў Японіі складаюць адпаведна 79,4 і 85,9 года, у Канадзе - 78,7 і 83,3 года, у Францыі - 78,4 і 85,1 года, у Італіі - 79,6 і 84,7 года, у Германіі - 78,4 і 83,2 года, у Вялікабрытаніі - 78,9 і 82,7 года, у ЗША - 76,3 і 81,1 года. Беларусь апярэджвае Украіну і Расію па чаканай працягласці жыцця пры нараджэнні мужчын і жанчын: там гэтыя паказчыкі складаюць 66 і 75,9 года, 64 і 75,6 года адпаведна.

Статыстычны агляд падрыхтаваны да Сусветнага дня народнасельніцтва, які адзначаецца 11 ліпеня.

*Алена Прус - БЕЛТА.*



## Колькасць работнікаў у падатковай сістэме Беларусі скарочана на 26,8 працэнта

**Аптымізацыя падатковых органаў у Беларусі праведзена, скарочана колькасць работнікаў у цэлым па сістэме на 26,8 працэнта. Аб гэтым паведаміў журналістам першы намеснік міністра па падатках і зборах Беларусі Сяргей Налівайка, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

Пры гэтым Сяргей Налівайка падкрэсліў, што пры скарачэнні апарату на 25 працэнтаў аўтаматычна павялічваецца на 32 працэнты інтэнсіўнасць працы. Такім чынам, аб'ём работ у МПЗ застаецца той жа, ён не зменшыўся, але інтэнсіўнасць працы павялічваецца. «Падатковыя органы - гэта тая структура, якая не можа адкласці нешта на потым, бо грошы паступаюць, іх трэба збіраць, гэта работа штодзённая, штогадзінная», - канстатаваў ён.

Сяргей Налівайка запэўніў, што ніякіх накладак, пагаршэнняў ва ўзаемадзеянні паміж плацельшчыкамі і падатковымі органамі ў сувязі з гэтым не адбудзецца. Узаемадзеянне будзе выходзіць на новы ўзровень, больш якасны і эфектыўны, падкрэсліў ён.

*Лілія Крапівіна - БЕЛТА*

## Полацкі раён

# Калыска духоўнасці нацыі

■ Станіслаў Раманчук

**Глыбока сімвалічна, што ад сцен першага кафедральнага праваслаўнага сабора ў Беларусі ў старэйшым горадзе ўсходніх славян Полацку днямі пачаліся ўрачыстасці 1025-годдзя хрышчэння Русі.**

Па іншаму і быць не магло, бо гэта мясцовасць, засяваная плямёнамі крывічоў, стала асновай нараджэння дзяржаўнасці, а Полаччына прыняла хрысціянства адразу пасля Кіева, потым Усяслаў Чарадзей яшчэ ў ХІ стагоддзі пачаў узводзіць тут фундаментальны Сафійскі сабор. Менавіта ля ўсходняй сцяны грандыёзнага храма архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій адслужыў малебен падзякі Госпаду. Па вуліцах горада-музея прайшоў хрэсны ход, а пасля богаслужэння пад сводамі сабора цудоўна гучала духоўная музыка ў выкананні харавой капэлы мясцовага педагагічнага каледжа. На наступны дзень урачыстасці перамясціліся ў Полацкую цэнтральную бібліятэку імя Ф. Скарыны, у якой адбылася абласная канферэнцыя “Праваслаўныя традыцыі ў духоўна-асветніцкай рабоце бібліятэк”. Дарэчы, у адным з яе філіялаў № 3 у горадзе нядаўна адкрылася зала праваслаўнай літаратуры. Удзельнікі канферэнцыі з цікавасцю пабывалі таксама ў бібліятэцы Спаса-Еўфрасіньеўскага жаночага манастыра, кніжны фонд якой налічвае 17 тысяч кніг духоўнага зместу. Цікава было бачыць на стэлажах побач з кнігамі абразы і старадрукаваныя выданні. Дарэчы, з нагоды юбілейных урачыстасцей выдавецтва Беларускага экзархату падаравала сетцы бібліятэк Полацкага раёна камплекты сваіх новых кніг. Цяпер у старажытным горадзе 97 помнікаў гісторыі і культуры, адным з цікавейшых застаецца сціплая келля святой Еўфрасінні, дзе госці ўбачылі месца пошукаў сапраўдных хрысціянскіх каштоўнасцей і сілы духу.

## Пастаўскі раён

# Стаўка на экстратэхніку

■ Кастусь Александровіч

**І ў гэтым годзе знакаміты ў мінулым калгас імя Суворава Пастаўскага раёна (цяпер гэта ААТ “Навасёлкі-Лучай”), як і раней, першым у рэгіёне завяршыў яравую сяўбу і касьбу траў першым укосам.**

Гаспадарка па-ранейшаму і пры новым старшыні Юрыі Шымчыку з'яўляецца адной з лепшых у краі і напрыканцы года павінна пабудаваць першую чаргу сучаснай фермы з даярамі-робатамі. Сакрэт поспехаў мясцовых хлебаробаў у тым, што яны аднымі з першых у тагачаснай БССР па ініцыятыве свайго знакамітага кіраўніка, Героя Сацыялістычнай працы Алега Валодзькі, пачалі асвойваць лепшую заходнюю сельскагаспадарчую тэхніку. Пазней нават малады тады беларускі прэзідэнт спецыяльна туды прыязджаў, каб пераканацца, што яна намнога лепшая па надзейнасці і прадукцыйнасці айчынных аналагаў. У гэтай гаспадарцы на палях дагэтуль спраўна працуюць амерыканскія і нямецкія трактары, камбайны і сеялкі. Сёлета летам у Навасёлкі пасля завяршэння працы міжнароднай спецыялізаванай сельскагаспадарчай выставы “Белагра-2013” спецыяльна прыгналі на выпрабаванні навейшы кормаўборачны камбайн “Джон Дзір” з камп’ютарнай аўтаматызаванай сістэмай упраўлення і навігацыі. Ён намнога апярэджвае сваіх аналагаў і да таго ж больш эканомны і высокапрадукцыйны. Нават пры вільготнай траве за гадзіну працы машына на калёсах выдае да 100 тон здробненай зялёнай масы пры малым расходзе паліва. Цуда-тэхніка аўтаматычна вострыць нажы, пераключае хуткасці руху, рэгулюе вышыню і нахіл жняркі ў залежнасці ад рэльефу мясцовасці і наяўнасці камянёў. Іншая справа, што большасць гаспадарак раёна, каб купіць такі камбайн, не маюць на яго грошай.

## Расонскі раён

# Лета – пара фестывальная

■ Чэслаў Якубовіч

**У самы спрыяльны і цёплы перыяд года людзі звычайна бяруць свае водпускі, каб добра адпачыць.**

У гэты час звычайна праводзяцца ў нас буйныя мерапрыемствы на адкрытым паветры. Вось і ў Расонскім раёне летам сталі праводзіць рэспубліканскі фестываль сельскага аграэкалагічнага турызму “Заборскі фэст”. Апошнім часам у маляўнічы зялёны край сталі актыўна прыязджаць і шматлікія госці з краін блізкага і далёкага замежжа. Пра фестываль на Расоншчыне добра ведаюць цяпер і за акіянам, цікавіцца традыцыйным кірмашом рамёстваў. Сёлета ўладары аграсядзіб, прыхільнікі здаровага ладу жыцця з задавальненнем пабачылі і тэатралізаванае прадстаўленне “На вайне як на вайне”, прайшоўшым у музеі партызанскага атрада. У гэты самы час у сталіцы будучых “Дажынак-2014” Гарадку ўжо ў пяты раз правялі свята мастацкай творчасці “Гарадоцкі Парнас” з удзелам беларускіх літарататараў і народных ансамбляў. Яно прысвячаецца вядомай паэме “Тарас на Парнасе”, якую ў 1885 годзе напісаў мясцовы ўраджэнец Канстанцін Вераніцын. Адной з яго асаблівасцей з'яўляецца тое, што гасцей свята частуюць прысмакамі, што елі багі на Парнасе. У другім кутку вобласці, у Бярэзінскім краі на базе Бягомльскай школы-інтэрната адбыўся абласны фестываль тэатральнага мастацтва “Залюстэр’е” для дзяцей з асаблівасцю развіцця. Яго ганаровымі гасцямі былі сябры-спонсары школы з Італіі, сям’я Карлэцці, якая паказала свой фільм, зняты пра падзеі на апошняй летняй Алімпіядзе ў Лондане.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 11.07.13 | | | | Пятніца 12.07.13 | | | | Субота 13.07.13 | | | | Нядзеля 14.07.13 | | | | Пнд.15.07.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +14 | +20 | +24 | +23 | +14 | +21 | +24 | +22 | +16 | +18 | +23 | +21 | +16 | +19 | +21 | +21 | +14 | +19 | +20 |
| Ціск | 743 | 743 | 744 | 744 | 745 | 746 | 746 | 746 | 747 | 747 | 746 | 745 | 744 | 743 | 741 | 741 | 740 | 740 | 740 |
| Вільготнасць | 97 | 76 | 46 | 63 | 93 | 78 | 54 | 63 | 88 | 79 | 60 | 68 | 92 | 94 | 74 | 76 | 97 | 87 | 77 |
| Вецер м/сек | 1 Пд-У | 1 Пд-У | 2 Пн-У | 2 Пн-У | 2 У | 2 Пн-У | 6 Пн-У | 3 Пн-У | 4 У | 4 У | 7 У | 3 У | 3 У | 3 У | 5 Пд-У | 1 Пд-У | 2 Пд-З | 4 Пд-З | 3 З |

# Аб самым надзённым

## ТРЫВОЖНАЯ СІТУАЦЫЯ НА БЕЛАРУСКІХ ДАРОГАХ ВЫКЛІКАЛА ПРЫНЯЦЦЕ СУРОВЫХ МЕР УЗДЗЕЯННЯ ДА НЕЦВЯРОЗЫХ ВАДЗІЦЕЛЯЎ

■ Аляксандр Цішкевіч

**Дарэчы, як пацвярджае статыстыка, у Беларусі кожнае пятае дарожна-транспартнае здарэнне на сумленні нецвярозых вадзіцеляў. Горш таго, па гэтай прычыне на той свет у 2011-2012 гадах на дарогах адправіліся 437 нашых суайчыннікаў, як за пяцігодку ўдзелу ў неаб’яўленай вайне ў Афганістане. А колькі яшчэ было траўм і раненняў, чалавечых драм з-за таго, што нехта з прапітай душой сеў п’яны за руль.**

Аб тым, што на дарогах краіны неспакойна і кожны дзень фіксуюцца дзясяткі розных здарэнняў з гібеллю і калецтвамі людзей, гаварылася даўно. Апошнім часам колькасць траспартных сродкаў сярод беларусаў істотна павялічылася і адначасова ў нас значна болей, у параўнанні з еўрапейскімі трасамі, стала фіксавацца розных ДТЗ з цяжкімі наступствамі. І вось з падачы Генеральнай пракуратуры Беларусі перайшлі да суровых мер уздзеяння.

Беларускі парламент і дагэтуль “слаўіўся” сваім адзінадушшам пры прыняцці законапраектаў. А напрыканцы чэрвеня дэпутаты Палаты прадстаўнікоў нават пераўзышлі сябе, бо за адзін чэрвеньскі дзень разглядзелі 18 розных пытанняў, працавалі да позняга вечара. Першым у той парламенцкі працоўны дзень у “палатнікаў” быў праект закона “Аб унясенні змен і дапаўненняў у некаторыя кодэксы Рэспублікі Беларусь па пытаннях узмацнення мер адказнасці за кіраванне транспартнымі сродкамі ў стане ап’янення”.

Гэты дакумент у Авальнай зале парламента дэпутатам прадставіў генеральны пракурор Аляксандр Канюк і быў прыемна здзіўлены іх рэакцыяй, бо 100 % народных абраннікаў адразу ў першым і другім чытанні выказаліся за навядзенне парадку на дарогах, задалі шмат пытанняў. Згодна з законадаўствам, цяпер гэты дакумент паступіў на зацвярджэнне ў верхнюю палату – Савет рэспублікі, а потым яго падпіша кіраўнік дзяржавы. Трэба сказаць, прынятыя (нехта скажа) “драконаўскія меры” наспелі, аднак да гэтага мы самі прыйшлі са сваімі паводзінамі на дарогах пасля прынятай чаркі.

Дарэчы, як пацвярджае статыстыка, у Беларусі кожнае пятае дарожна-транспартнае здарэнне на сумленні нецвярозых вадзіцеляў. Горш таго, па гэтай прычыне на той свет у 2011-2012 гадах на дарогах адправіліся 437 нашых суайчыннікаў, як за пяцігодку ўдзелу ў неаб’яўленай вайне ў Афганістане. А колькі яшчэ было траўм і раненняў, розных чалавечых драм з-за таго, што нехта з прапітай душой сеў зноў п’яны за руль. Таму зараз увялі новыя досыць суровыя пакаранні. Цяпер хто на падпітку сядзе ў сваё аўто і паедзе, пры затрыманні ДАІ за такую язду будзе аштрафаваны да 100 базавых велічынь, на дадзены момант гэта 10 мільёнаў рублёў.

У адміністрацыйным парадку будзе накладацца падобны штраф і за перадачу кіравання машынай альбо адмову ад праходжання праверкі (медагляду). Дагэтуль штрафы былі ў межах ад 15 да 35 базавых велічынь з пазбаўленнем вадзіцельскіх правоў тэрмінам на 3 гады. Па новым законапраекце планка пакаранняў павышана да ўзроўню пазбаўлення свабоды і калі будуць наступствы для іншых удзельнікаў дарожнага руху, для п’яных навічкоў за рулём можа адразу наступіць арышт да 6-ці месяцаў з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады альбо займацца пэўнай дзейнасцю.

А вось для тых, хто будзе ігнараваць і далей закон, ездзіць зноў пад градусам потым без правоў, альбо, не дай Бог, яшчэ і кагосьці саб’е, тут наступіць новая норма: канфіскацыя транспартнага сродку і крымінальная адказнасць. У выпадку гібелі двух і больш чалавек прызнанаму вінаватым п’янаму вадзіцелю будзе пагражаць да 10 гадоў турмы. Канфіскацыя не будзе датычыць выпадкаў, калі аўтамабілем завалодалі ў выпадку ўгону, самаўпраўства знаёмых і родных. Адначасова з гэтым вырашана распрацаваць маштабную праграму бяспекі на дарогах Беларусі і надаць статус афіцыйнага доказу віны вадзіцеляў за дапамогай аўтафотарэгістратараў.

У любым выпадку неўзабаве каму дабавіцца працы, дык гэта судам. У цэлым у грамадстве становіча ўспрынялі новыя суровыя меры ўздзеяння на вадзіцеляў-выпівох, але і спадзявацца, што адразу зменіцца да лепшага абстаноўка на дарогах не выпадае. Занадта глыбока сядзіць гэта праблема ў душах людзей, асабліва ў сельскай мясцовасці, дзе бывае і няма каго на трактар пасадзіць і прыходзіцца адпраўляць у рэйс кіроўцу без правоў, бо ніхто іншы не падвязе ваду каровам на пашу. У такім выпадку ці паднімецца рука ў суддзі канфіскоўваць грузавік у занядбалага калгаса?

А вось тое, што п’яніцам не месца на беларускіх дарогах – гэта адназначна. Любы паляк і немец дзесяць разоў падумае сесці за руль, альбо выклікаць таксі, калі ўчора вечарам ён выпіў нават некалькі кухаляў піва. У нас усё па-другому, іншы менталітэт, але цяпер прыйдзецца лічыцца, што неаб’яўленай “вайне на дарогах краіны” аб’яўлены суровы бой. Неўзабаве ў айчынных СМІ з’явяцца першыя рэпартажы, калі гора-вадзіцелі, аматары чаркі будуць са слязьмі на вачах развітвацца са сваімі іншамаркамі, але іншага проста не дадзена…

## Дзень за днём

**З 1 ліпеня выраслі ў сярэднім на 10 % упершыню сёлета ў Беларусі працоўныя пенсіі грамадзян. Беларусы выйшлі на другое месца ў свеце па спажыванні гарэлкі на душу насельніцтва, хоць сёлета яе продаж скараціўся на 7,1 %. Да канца года ў Мінску адкрыюцца яшчэ 4 гіпермаркеты, з іх адзін будаўнічы. За грубыя парушэнні ў Беларусі пазбавілі ліцэнзій 12 прыватных медцэнтраў. Адразу 235 таленавітых вучняў і студэнтаў зноў заахвоцілі стыпендыямі і прэміямі. Працяглых на манер Расіі калядных і майскіх выхадных у Беларусі не будзе, як пацвердзілі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бразілія.** Больш мільёна чалавек выйшлі на антыўрадавыя дэманстрацыі пратэсту ў сотні гарадоў краіны, былі сутычкі з паліцыяй, людзі выступаюць супраць карупцыі, росту цэн, беззаконня.

**Сірыя.** Еўропа дарага заплаціць, прыгразіў кіраўнік краіны Х. Асад, за пастаўкі зброі сірыйскім паўстанцам, назад на кантынент экстрэмісты вернуцца з баявым вопытам.

**Японія.** Вучоныя Такійскага ўніверсітэта паспяхова правялі эксперыменты па вырошчванні чалавечых органаў у арганізмах свіней для перасадкі хворым людзям.

**Бельгія.** Прэзідэнт Еўрапарламента Марцін Шульц заявіў, што ў кіраўніка РБ няма шанцаў у сярэдне- і доўгатэрміновай перспектыве для палітычнага выжывання.

**Палестына.** Прэм'ер-міністр Рамі Хамдала пайшоў у адстаўку праз 2 тыдні пасля ўступлення на сваю пасаду з-за спрэчак з многімі членамі ўрада аўтаноміі.

**Італія.** Суд прыгаварыў знакамітых дызайнераў моды Д. Дольчэ і С. Габбану да 1 года і 8 месяцаў турмы кожнага за ўхіленне ад выплаты падаткаў у 2004-2005 гадах.

**Францыя.** Міністры фінансаў краін зоны еўра Еўрасаюза зацвердзілі ўступленне Латвіі ў еўразону з 1 студзеня 2014 года, многія латышы супраць агульнаеўрапейскай валюты.

**Англія.** Пасля збору і аналізу за паўстагоддзе адпаведнай інфармацыі Міністэрства абароны заявіла, што іншапланетных неапазнаных лятальных апаратаў (НЛА) не існуе.

**Латвія.** У цэнтры сталіцы пажар знішчыў 3,2 тысячы кв. метраў рэзідэнцыі прэзідэнта ў рамантуемым замку, найбольш моцна выгарэлі дах і пакоі на верхніх паверхах.

**Казахстан.** Да канца лета ва ўрад краіны паступіць праект развароту вод ракі Іртыш назад па каналу да рэк Амудар'і і Сырдар'і, гэта ідэя разглядалася яшчэ ў часы СССР.

**Італія.** На поўначы краіны зноў адбыўся землятрус без ахвяр сілай 5,2 бала, летась там было страшней: загінула каля 30 чалавек, былі разбураны 14 тысяч жылых дамоў.

**Расія.** Некалькі дзён пайшло на ліквідацыю пажару на Прыволжскім ваенным палігоне ў Самарскай вобласці пасля выбуху складу боепрыпасаў, раніла каля 50 чалавек, 1 загінуў.

**Філіпіны.** Улады краіны знішчылі ў спецыяльным крэматорыі 5 тон слановай косці, канфіскаванай у ходзе барацьбы з кантрабандай, на суму амаль 10 млн. долараў.

**Кітай.** За згвалтаванне 11 непаўналетніх дзяўчынак суд вышэйшай інстанцыі правінцыі Хэнань пакараў смерцю былога функцыянера правячай Кампартыі Лі Сіньгуна.

**Францыя.** Суд Парыжа пазбавіў 64-гадовага акцёра Жэрара Дэпардз'е вадзіцельскіх правоў на паўгода і даў штраф 4 тысячы еўра за язду на скутэры ў нецвярозым выглядзе.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Старшыня праўлення Нацбанка Беларусі Н. Ермакова паведаміла аб магчымасці дэнамінацыі рубля ў 2014 годзе пры ўмове ўтрымання ў краіне невысокай інфляцыі.

**Гомель.** Пасля вынясення абласным судом смяротнага прыгавора Савет Еўропы выказаў сваю занепакоенасць, бо Беларусь адна на кантыненце прымяняе такое жорсткае пакаранне.

**Мінск.** Пасля аптымізацыі кадраў дзяржслужачых і скарачэнняў у штаце Міністэрства культуры Беларусі замест 108 засталіся толькі 80 супрацоўнікаў, не стала прэс-службы.

**Крычаў.** Тут арыштавалі аператыўніка райаддзела міліцыі, яго і яшчэ двух афіцэраў міліцыі падазраюць у жорсткім збіцці мясцовага жыхара, каб выбіць паказанні.

**Мінск.** Буйны французскі аўтамабільны канцэрн "Пежо-Сітраен" пачаў вывучаць магчымасці арганізацыі ў Беларусі зборачнай вытворчасці сваіх легкавых аўтамабіляў.

**Шчучын.** Суд раёна аштрафаваў на буйныя сумы актывістаў незарэгістраванага Саюза палякаў у РБ за правядзенне несанкцыянаванага мітынга падчас устаноўкі крыжа.

**Салігорск.** Следчы камітэт спыніў справу па факце забойства ў ванне дваіх дзяцей іх псіхічна хворай маці, бо яна сама памерла ад пераахаладжэння арганізма.

**Будслаў.** Падчас маштабнага фэста 400-годдзя прыбыцця сюды цудатворнага абраза Маці Божай пасля літургіі прайшло гашэнне спецыяльнага юбілейнага паштовага блока.

**Гомель.** На заводзе "Цэнтраліт" значна знізілася колькасць курыльшчыкаў пасля ўвядзення штомесячных даплат за адмову ад курэння, прыклад падала сама дырэкцыя.

**Лагойск.** Пад раніцу на беразе водасховішча Макоўза з-за дзяўчыны моцна пабіліся два хлопцы, праз 2 дні 26-гадовы жыхар Лагойска памёр у бальніцы ад траўмы галавы.

**Гродна.** Упершыню ў мясцовым заапарку нарадзіліся рэдкія стэпавыя лісіцы карсакі, таксама патомства з'явілася і ў касуль, ваўкоў, кабаноў, в'етнамскіх свінак, харкоў.

**Мядзел.** Супраць 51-гадовага жыхара райцэнтра, бацькі сямі дзяцей распачалі крымінальную справу, ён 19 разоў пападаўся ДАІ за язду ў нецвярозым выглядзе.

**Быхаў.** Да Дня беларускага пісьменства ў райцэнтры акрамя рэканструкцыі замка пачалі будаваць басейн, добраўпарадкаваць цэнтр, Палац культуры, кінатэатр, абодва вакзалы.

**Жлобін.** З-за фінансавых праблем у мясцовага БМЗ пад пагрозай закрыцця апынуўся адзін з мацнейшых у РБ, хакейны клуб "Металург", адкуль звольніліся мацнейшыя ігракі.

**Гомель.** Санітарная служба горада забараніла дзейнасць кафэ "Шапіто", у якім атравіліся людзі і былі пратэрмінаваныя харчы, правяла праверкі іншых аб'ектаў грамадскага харчавання.

## Дапамога за першыя 6 дзён часовай непрацаздольнасці з-за «п'янай» траўмы прызначацца не будзе



■ Алена Прус - БЕЛТА

**У Беларусі зацверджана новае Палажэнне аб парадку забеспячэння дапамогамі па часовай непрацаздольнасці і па цяжарнасці і родах.**

Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове Савета Міністраў ад 28 чэрвеня бягучага года № 569, якая ўступае ў сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе беларускага ўрада. Як растлумачылі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны, дакумент падрыхтаваны ў мэтах удасканалення парадку забеспячэння дапамогамі па часовай непрацаздольнасці і па цяжарнасці і родах, якая выплачваецца за кошт сродкаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання, і аднастайнага парадку вылічэння дапамог, якія маюць адно і тое ж прызначэнне - пакрыццё страчанага заробку . Галоўная навацыя дакумента заключаецца ў тым, што цяпер не будзе прызначацца дапамога па часовай непрацаздольнасці ў сувязі з захворваннем або траўмай, прычынай якіх з'явілася ўжыванне алкаголю, наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў і іх аналагаў, таксічных або іншых адурманьваючых рэчываў, за першыя шэсць каляндарных дзён часовай непрацаздольнасці. Гэтая мера накіравана на матывацыю захавання здароўя насельніцтва і не супярэчыць заканадаўству аб дзяржаўным сацыяльным страхаванні, падкрэслілі ў міністэрстве.

Ёсць і шэраг іншых навацый. Так, павялічаны перыяд, за які дапамога прызначаецца ў памеры 80% сярэднядзённага заробку, з 6 да 12 каляндарных дзён. На думку спецыялістаў, дапамога па часовай непрацаздольнасці з'яўляецца сацыяльнай выплатай (а не заработнай платай), таму згублены ў сувязі з часовай непрацаздольнасцю заробак не павінен кампенсавацца ў поўным аб'ёме. Павялічаны перыяд, за які вызначаецца сярэднядзённы заробак для вылічэння дапамогі па часовай непрацаздольнасці, з 2 да 6 каляндарных месяцаў, папярэдніх месяцу, у якім паўстала права на дапамогу. Прадугледжваецца вызначаць сярэднядзённы заробак для вылічэння дапамог і памер дапамог без уліку павелічэння тарыфнай стаўкі (акладу) у шэсць месяцаў, якія папярэднічаюць месяцу, у якім паўстала права на дапамогі, і ў перыядзе часовай непрацаздольнасці або водпуску па цяжарнасці і родах. Дапамога цяпер будзе выплачвацца за каляндарныя дні часовай непрацаздольнасці, а не за рабочыя. Гэта неабходна ў сувязі з павелічэннем перыяду, за які вызначаецца сярэднядзённы заробак, і ў мэтах спрашчэння разліку дапамог. Устаноўлена, што дапамога па часовай непрацаздольнасці прызначаецца ў мінімальным памеры асобам, за якіх абавязковыя страхавыя ўзносы на сацыяльнае страхаванне выплачваліся менш чым за 6 месяцаў да ўзнікнення права на дапамогу. Мінімальны памер дапамогі па часовай непрацаздольнасці такім работнікам складзе ў месяц 50% бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Да пачатку новага навучальнага года ў вобласці закрыюць у глыбінцы яшчэ 32 малакамплектныя школы, з іх 15 сярэдніх школ. Цяпер 174 школьныя аўтобусы возяць дзяцей.

**Орша.** У спіс 12 прыватных медыцынскіх цэнтраў Беларусі, пазбаўленых ліцэнзій, трапілі поўнасцю мясцовыя ТАА "Флорэнс-Дэнталь" і часткова ТАА "Стамака" – па хірургіі зубоў.

**Паставы.** Сыр "Каралеўскі", смятана і кефір Пастаўскага малочнага завода атрымалі Гран пры міжнароднай выставы "Белагра-2013", неўзабаве на заводзе запрацуе новы сырны цэх.

**Віцебск.** Абласны суд пакараў 42-гадовага беспрацоўнага жыхара горада за забойства маладога таксіста 23 гадамі калоніі строгага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

**Докшыцы.** Работнік райаграсервіса Генадзь Бабіцкі заняў 3-е месца на рэспубліканскім конкурсе маладых аратых на трактарах "Беларус-1523" з 5-корпуснымі плугамі.

**Сянно.** На дапамогу будаўнікам на рэканструкцыі ферм прыбылі ў раён 10 студэнцкіх будаўнічых атрадаў, 170 студэнтаў заняліся ў асноўным заліўкай бетонных падлог.

**Браслаў.** Ноччу каля Відзаў у драўляным доме, абкладзеным цэглай, загінуў на пажары 50-гадовы вясковец, вечарам яго бачылі суседзі падпітым, ён закурыў у апошні раз.

**Полацк.** Супраць начальніка аддзела адукацыі раённага выканаўчага камітэта распачалі крымінальную справу за злоўжыванне ўладай і перадачу бацьку дома ў вёсцы па заніжаным кошце.

**Расоны.** На дарозе Полацк-Апочка мытнікі затрымалі пры ўездзе ў Беларусь з Расіі 3,5 тоны садавіны і гародніны без адпаведных дакументаў, а потым яшчэ 18 тон агуркоў.

**Віцебск.** У трох вёсках раёна – Ліпаўцы, Шапечына і Асінаўка ў насельніцтва санітарныя службы канфіскавалі і знішчылі свіней на падворках, магчыма, з-за нейкай эпідэміі.

**Браслаў.** Падчас прэс-тура па Віцебскай вобласці латышскія журналісты зацікавіліся Браслаўскімі азёрамі і магчымасцямі куротнай зоны для прыёму турыстаў з Латвіі.

**Полацк.** Ва ўсіх прыходах мясцовай праваслаўнай епархіі на тэрыторыі 11 раёнаў вобласці прайшлі духоўныя ўрачыстасці ў гонар 1025-годдзя хрышчэння Русі.

**Віцебск.** На працягу двух дзён у абласным цэнтры праходзіў буйны кірмаш "Купляйце беларускае" з прадастаўленнем зніжак, каб разгрузіць склады швейных фабрык.

**Наваполацк.** У горадзе пачаўся рамонт мясцовага Лядовага палаца, каб разлічыцца з іграмі за мінулы сезон, дырэкцыя ХК "Хімік-СКА" ўзяла другі банкаўскі крэдыт.

**Глыбокае.** У раённым цэнтры ўпершыню прайшоў конкурс прыгажосці банкаўскіх служачых "Краса банка" з удзелам 7 дзяўчат, якія спаборнічалі на сцэне гарадскога дома культуры у трох дэфіле.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Адраджэнец іўрыту

■ Зміцер Лупач

**У Лужках ушанавалі памяць знакамітага земляка Лазара Перэльмана, які вядомы ў свеце як Эліязэр Бен-Іегуда. З яго імем звязваюць адраджэнне іўрыту, які зараз з'яўляецца дзяржаўнай мовай Ізраілю. Мерапрыемства адбылося 6 ліпеня.**

Спачатку ўдзельнікі сабраліся ў Лужках, потым паехалі ў вёску Верацеі, дзе ў будынку былой школы адбыліся Бен-Іегудаўскія чытанні. На іх сабралася больш за пяцьдзясят чалавек. Гэта краязнаўцы з Германавічаў, Шаркоўшчыны, Лужкоў, Мёраў, Глыбокага, Браслава, прадстаўнікі габрэйскіх суполак Полацка і Віцебска. Імпрэзу наведалі прадстаўнікі Таварыства аховы помнікаў на чале з яго кіраўніком Антонам Астаповічам, гісторык з Гродна Іна Соркіна, а таксама прадстаўнікі раённай улады.

Мерапрыемства было арганізаванае культурнаасветніцкім цэнтрам імя Язэпа Драздовіча, якім кіруе Ада Райчонак, сумесна з Таварыствам аховы помнікаў гісторыі і культуры, кіраўніком якога з'яўляецца Антон Астаповіч.

Пачынаць чытанні павінен быў наш зямляк з Глыбокага Генадзь Плавінскі з дакладам "Дарога жыцця Лазара з Лужкоў, глыбачаніна." Але, на жаль, месяц таму ён зламаў нагу і не змог паўдзельнічаць у мерапрыемстве. Яго даклад прадставілі гасцям Зміцер Лупач і Юрый Калбасіч. Акрамя даклада, Юрый Калбасіч распавёў удзельнікам пра тое, колькі намаганняў прыклаў Генадзь Антонавіч для таго, каб у Глыбокім з'явіўся помнік Эліязэру Бен-Іегуду. Ён некалькі разоў збіраў подпісы пад зваротамі да глыбоцкіх уладаў, перапісваўся з прадстаўнікамі габрэйскіх арганізацый Беларусі і Ізраілю, звяртаўся нават да пасла гэтай краіны.

І вось у мінулым годзе старанні Генадзя Плавінскага завяршыліся поспехам – на прыкасцельнай плошчы ў Глыбокім быў усталяваны бюст адраджэнцу іўрыту. Канечне, я не хачу тут неяк зменшыць заслугі ў гэтым глыбоцкіх уладаў, у першую чаргу, гэта іх заслуга, але, на маю думку, каб не руплівасць Генадзя Антонавіча, на гэтым месцы мог стаяць бюст іншаму чалавеку.

Трэба адзначыць, што партрэт Эліязэра Бен-Іегуды спецыяльна для гэтага мерапрыемства напісаў мастак з Глыбокага Юры Калбасіч.

Пасля з дакладам выступіў вядомы пісьменнік і перакладчык літаратуры з іўрыту Павел Касцюкевіч. У сваім дакладзе ён паведаміў, што з іменем Бен-Іегуды звязана шмат міфаў, галоўны з іх, што ён адзін аднавіў іўрыт, мову, якая тады лічылася мёртвай. Спадар Касцюкевіч абгрунтавана даказаў прысутным, што гэта не зусім так. Габрэі разумелі іўрыт, бо на ім была напісаная Тора, на іўрыце яны маліліся, шмат слоў з гэтай мовы выкарыстоўвалася ў паўсядзённым жыцці. Галоўнае, што дапамагло Эліязэру ў адраджэнні іўрыту, гэта тое, што былі вялікія воля і жаданне народа да таго, каб адрадзіць сваю мову. Заслуга нашага земляка менавіта ў тым, што калі да яго яўрэі разумелі іўрыт, але не гаварылі на ім, то пасля яго яны на ім загаварылі.

У гэтай сувязі спадар Касцюкевіч прыводзіў параўнанні са станам іўрыту ў часы Бен-Іегуды і сучасным станам беларускай мовы, што нам можа быць карысным з ізраільскага вопыту, а што нам не падыходзіць. Ён падкрэсліў, што зараз у Беларусі ёсць цудоўная літаратура на беларускай мове, расце да яе інтарэс, але літаратурная і гутарковая мовы – гэта розныя рэчы. А сфера выкарыстання беларускай мовы ў паўсядзённым жыцці, на жаль, зніжаецца. А для таго, каб яе павялічыць патрэбна імкненне народа і падтрымка дзяржавы. А вось гэтага зараз якраз у нас катастрафічна не хапае.

Іна Соркіна, кандыдат гістарычных навук з Гродна, прадставіла свой даклад "Гісторыя Лужэцкага кагала згодна кнігі Стомы-Сініцы "Маё мястэчка". У гэтай кнізе аўтар цікава распавядае пра паўсядзённае жыццё даваенных Лужкоў, пра іх клопаты, звычкі, забабоны. Стома-Сініца распавёў не толькі пра жыццё габрэяў, але і беларусаў, палякаў, старавераў, іх дачыненні паміж сабой. Хутка гэта кніга павінна быць выдадзеная асобным выданнем.

У сваю чаргу краязнаўца з Глыбокага Ала Вярцінская распавяла прысутным пра жыццё глыбоцкага кагала. Глыбокае лічыць Эліязэра Бен-Іегуду таксама сваім земляком, бо ён тут амаль два гады вучыўся, яго абедзве жонкі – Дэбора і Хельда – былі глыбачанкамі. "Павел Касцюкевіч паведаміў нам, што з Бен-Іегудам звязана шмат міфаў. Так, магчыма, мы ў Глыбокім паставілі помнік міфу, але гэты міф нам зараз вельмі патрэбны, – адзначыла выступоўца, – гэта прыклад таго, як трэба любіць свой народ і яго мову."



Партрэт Эліязэра Бен-Іегуды работы Юрыя Калбасіча.

На імпрэзе былі прадстаўленыя і іншыя даклады, адбылася прэзентацыя фільма "Шэсць вякоў на беларускай зямлі", у якім распавядаецца пра гісторыю беларускіх габрэяў, а таксама чорную старонку гэтай гісторыі – масавае знішчэнне габрэяў падчас Другой усясветнай вайны. Аўтар сцэнарыя гэтага фільма – Антон Астаповіч.

Спадар Антон паведаміў прысутным, што існуе праект аднаўлення сінагогі ў Лужках:

– *Калі гаварыць пра аднаўленне будынка сінагогі, яно не толькі магчымае, яно неабходнае, гэтага вымагае з таго, што гэты будынак атрымаў статус гісторыка-культурнай каштоўнасці, і ў 2010 годзе пастановай Саўміна ўнесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў. Ён павінен быць ці то закансерваваны, і захоўвацца як руіна с сістэмай добраўпарадкавання, ці то павінна быць зроблена яго рэстаўрацыя і рэканструкцыя.*

Па словах Антона Астаповіча, працы павінны пачацца ў наступным годзе. Сцены і падмурак у будынка трывалыя, патрэбна аднавіць толькі падлогу, столь і дах. Гэтыя працы будуць весціся гаспадарчым спосабам, таксама да працы будуць прыцягвацца валанцёры.

Ада Райчонак паведаміла, што ўжо даўно дамагаецца рэстаўрацыі гэтага будынка:

– *Будынак ужо амаль развальваўся, мы меркавалі яго адрамантаваць, праўда, улады грошы не давалі, але і не давалі магчымасці і нам яе аднавіць. Дачка Бен-Іегуды, ёй было 96 год, давала грошы на аднаўленне гэтай сінагогі. Там ужо няма нават даху, а калі мы браліся яе рамантаваць і дах быў, і вокны былі. Вось з Ізраіля патэлефанавалі ў аддзел культуры: ці патрэбны вам такі музей, а там адказалі, што не патрэбны.*

Згаданыя спадарыняй Адай падзеі адбываліся напрыканцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Зараз у Шаркоўшчынскім раёне змяніўся кіраўнік, і Ада Эльеўна спадзяецца, што справа зрушыцца з мёртвай кропкі.

На гэта дае надзею тое, што на мерапрыемстве прысутнічала кіраўнік аддзела ідэалогіі Шаркоўшчынскага райвыканкама Людміла Уладзіміраўна Стома. Раённыя ўлады дапамаглі арганізатарам з арэндай памяшкання, харчаваннем, транспартам. Хочацца спадзявацца, што ў хуткім часе і ў Лужках з'явіцца помнік свайму земляку, іменем якога названы цэнтральны праспект Тэль-Авіва, Эліязэру Бен-Іегудзе.

Прысутных парадавалі габрэйскімі песнямі госці з Віцебска Яна Осіпава і Аляксандр Шурыц. Яны прадставілі прысутным песні на іўрыце, а таксама габрэйскія песні на рускай мове. Гледзячы па рэакцыі слухачоў, выступленне віцяблян ім вельмі спадабалася.

Пасля чытанняў удзельнікі мерапрыемства наведалі брацкую магілу ахвяраў гета




# У Віцебскай вобласці не засталося крам, якія рэалізуюць спіртное ўначы

**У Віцебскай вобласці не засталося ніводнай крамы, якая рэалізуе спіртное ўначы. Пра гэта паведаміў сёння на брыфінгу начальнік УУС Віцебскага аблвыканкама Ігар Яўсееў, перадае карэспандэнт БелТА.**

«Да апошняга часу ў Віцебскай вобласці працавала шэсць кругласутачных крам, дзе ўначы можна было вольна набыць алкагольныя напоі. Яны размяшчаліся ў Оршы, Полацку і Наваполацку. У абласным цэнтры апошняя кропка продажу алкаголю была зачыненая каля месяца назад. Начная крама знаходзілася побач Смаленскага рынка і была сталым агменем напругі. Тут збіралася сумнўная публіка, здзяйсняліся супрацьпраўныя дзеянні, парушаўся грамадскі парадак. Пасля таго, як было вынесена рашэнне пра забарону на продаж алкаголю, сітуацыя змянілася ў лепшы бок, завошта нам асабліва ўдзячныя жыхары бліжэйшых дамоў», – сказаў Ігар Яўсееў.

Ён таксама падкрэсліў, што ў Віцебску падчас правядзення «Славянскага базара» абмежаванні на продаж спіртнога ўводзяцца і ў дзённы час. У радыусе 500 м ад месцаў правядзення відовішчных мерапрыемстваў продаж алкагольнай прадукцыі будзе спыняцца за дзве гадзіны да пачатку канцэртаў. Як паказвае досвед правядзення мінулых фэстаў, абмежаванне гандлю спіртнымі і слабаалкагольнымі напоямі памяншае лік хуліганстваў і дробных крадзяжоў, вялікая частка якіх здзяйсняецца ў стане алкагольнага ап'янення.

*Алена Ціханава, БелТА*

# з Лужкоў



**Прысутных парадавала габрэйскімі песнямі госця з Віцебска Яна Осіпава.**

ў Лужках, дзе адбыўся мітынг памяці па загінуўшых. У гэтай магіле пахавана 916 чалавек, жыхароў Лужкоў, сярод якіх былі старыя, жанчыны, маленькія дзеці. Выступоўцы прызвалі ўсіх шанаваць мір і сапраўдную дружбу паміж народамі, якая б не дапусціла ў наступным паўтарэння такой трагедыі.

Сярод удзельнікаў прысутнічалі двое людзей – ахвяр гета ў Лепелі і Віцебску, якім пашчасціла выжыць. Гэта палкоўнік Сямён Фігельман і Ада Райчонак. Яны падзяліліся з прысутнымі сваімі страшнымі ўспамінамі, заклікалі берагчы памяць пра загінуўшых, а напрыканцы сімвалічна абняліся. Над магілай была прачытаная габрэйская малітва за памёрлых на іўрыце, а потым у перакладзе на рускую мову. Па габрэйскай традыцыі да помніка былі пакладзеныя каменьчыкі, а пасля ўскладзены вянок. Удзельнікі мітынгу хвілінай маўчання ўшанавалі памяць ахвяр генацыду.

Гэта імпрэза можа служыць добрым прыкладам супрацоўніцтва грамадскіх арганізацый з уладамі, бо мы ўсе жыхары адной краіны, усе мы любім сваю Бацькаўшчыну. А для таго, каб дасягнуць поспеху ў будучыні, трэба ведаць сваю гісторыю, любіць сваю краіну, свой народ, яго мову. І добрым прыкладам таму можа служыць жыццёвы шлях Лазара Перэльмана – Эліэзэра Бен-Іегуды.



**Іна Соркіна, кандыдат гістарычных навук, Гродна.**

# Упершыню Купалле ў Глыбокім адзначылі на возеры Бяглец

■ Яўген Самсонаў

**Адметнай рысай традыцыйнага свята "Купалле", якое адбылося 6 ліпеня ў Глыбокім, было тое, што ў адрозненне ад папярэдніх гадоў, яно праходзіла на возеры Бяглец.**

Лепш, весялей, зручней, прыгажэй ці масавей за папярэднія гады? – цяжка сказаць. Тое, што было больш пераважна моладзі, магу сцвярджаць упэўнена.





# Дзень ушанавання памяці, мужнасці і гераізму салдата-вызваліцеля ў Глыбокім

■ Яўген Самсонаў

**– Ніколі не забудзецца гераізм тых, хто паклаў на алтар Перамогі свае жыцці. Памяць аб іх будзе жыць у вяках, бо заўсёды да брацкіх магіл будуць людзі прыходзіць з кветкамі і з пачуццём вялікай удзячнасці,** – такія і падобныя словы прагучалі з вуснаў старшыні раённага выканаўчага камітэта Алега Морхата і іншых прамоўцаў падчас мітынгу ў Дзень ушанавання памяці, мужнасці і гераізму салдата-вызваліцеля ў Глыбокім.

І кожны раз у скрушныя мінуты маўчання адчуваеш пачуццё гонару за сваіх продкаў, якія самааддана змагаліся з фашысцкай навалай у шэрагу сапраўдных гераічных сыноў Айчыны, трапяткім хваляваннем адгукаецца ў кожным сэрцы. Подых перахоплівае камок і наварочваецца сляза, і, на мой погляд, памяць аб учынках і маіх родзічаў заслугоўвае такой пашаны.

Барок – месца святое. Тут, сярод 27 тысяч людзей самых розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў, захаваныя рэшткі майго дзядзькі – Самсонава Цімафея Максімавіча – які, па даносу здрадніка Ячніка, трапіў у рукі гестапа і, каб нікога не выдаць, разбіў бутэльку і перарэзаў сабе горла. Гэты ўчынак уратаваў Падсвільскае падполле ад арыштаў і расстрэлу яшчэ чатырох чалавек з сям'і Самсонавых. Праўда, ім усё ж давялося зведаць жахі Асвенцыма, дзе быў і спалены мой дзед, Максім Філімонавіч, а бабуля, Ганна Фамінічна, пражыла толькі месяц пасля вяртання на радзіму.

Цяжка ўявіць, што перажыў у той скрушны час мой бацька – Рыгор Максімавіч, які знаходзіўся ў партызанскім атрадзе імя Суворава. Сямья арыштаваная, а чацвёра дзетак: пяцігадовага Валодзю, трохгадовых двайняшак Веру і Раю і маленькага Мішу прытулілі жыхары вёскі Дабрэзіна. Жаданне помсты і лёс дзетак не даваў пакою. Камісар атрада – Петр Міронавіч Машэраў – аддаў негалосны загад: у разведгрупы Рыгора Самсонава забраць зброю, схаваць усё іх адзенне, паіць гарэлкай і два тыдні з атрада не выпускаць. І ўсё ж бацька, бы той воўк, ратуючы сваіх дзетак, рушыў у небяспечны шлях, бо было вядома, што на падыходзе да вёскі немцы ўсталявалі засаду. Прыкінуўшыся п'яным немцам, мацюкаючыся па нямецку, падышоў блізка да засады і закідаў іх гранатамі.

На жаль, час бяжыць і ўсё менш і менш застаецца жывых герояў, якія здабылі нам перамогу ў той жудаснай вайне. Таму ветэранам Вялікай Айчыннай вайны – асаблівая пашана. Менавіта для іх ладзілася святочнае шэсце працоўных калектываў раёна, якія строем рапартавалі вызваліцелям аб сваіх працоўных дасягненнях.

Шчыра паклапаціліся арганізатары і ў іншых мерапрыемствах праграмы правядзення раённага свята "Квітней Глыбоччына", прысвечанага Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

Да ўвагі глыбачан і гасцей горада ладзіліся: тэатралізаваны музычны пралог "Пралеска сіняй Беларусі", канцэртная праграма "Жыві, красуй, мая Глыбоччына!", народнае свята "Іграй, гармонік!", прадстаўляліся вырабы народных майстроў на выставе "Самародкі зямлі глыбоцкай", жадаючыя маглі ўдзельнічаць у гульнях, конкурсах і спартыўных спаборніцтвах, катацца на лодках і катамаранах на возеры Кагальным.



**Алег Газманаў у Глыбокім.**

Галоўным стрыжнем культурнай праграмы свята быў канцэрт на гарадскім стадыёне папулярнейшага расійскага эстраднага спевака Алега Газманава, які літаральна песціў і зачароўваў гледачоў сваім талентам. Гэта значная падзея ў культурным жыцці Глыбокага, бо, каб убачыць выступленне зоркі такой велічыні, у Глыбокае завітала шмат гасцей не толькі бліжэйшых раёнаў і вобласці, але нават і сталіцы.

Тым не менш, як мне падалося, наступная конкурсная шоу-праграма "Дзве зоркі – 5" сабрала не менш гледачоў і яны не былі разачараваныя. І тут галоўным героем быў таксама Алег, але не Газманаў, а кіраўнік раёна Морхат. Папершае, Алег Віктаравіч - заснавальнік гэтага праекта, па-другое, сталы ўдзельнік конкурсу і пераможца і, патрэцяе, ці кожны адважыцца, знайсці мужнасць уступіць у спаборніцтва з нашымі, можна сказаць, профі, для якіх не навіна сталічныя і замежныя падмосткі.

Цікава было паглядзець фільм "Глыбоччына – 2013", дружна прыняць удзел у акцыі "Спяваем Гімн разам" і суправаджаць воклічамі амаль кожны залп святочнага салюту.

Скончылася свята далёка за поўнач моладзевай дыскатэкай.



